


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

24 кастрычніка 2003 года

№ 43 (444)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года

Плюс Тэлетыдзень

## Навіны рэгіёну

### Траціл у цягніку

АСТРАВЕЦ. На 2 гадзіны 10 хвілін затрымаўся 21 кастрычніка цягнік Санкт-Пецярбург–Калінінград на станцыі Гудагай.

У вагоне №3 знайшлі 12 скруткаў з трацілавымі шашкамі агульнай вагой 2,4 кг. Група разміравання падраздзялення "Алмаз", выкліканая з Мінска, знайшла таксама патроны да аўтамата калібрам 7,62 мм – 60 шт., калібрам 5,45 мм – 26 шт. Груз суправаджаў грамадзянін Расійскай Федэрацыі Алег **Весялоўскі**. Ён затрыманы, узбуджана крымінальная справа.

**Святлана ЦІШКО.**

### Прайшлі праверкі

ВІЛЕЙКА. У сувязі з трагічнымі падзеямі на Гродзеншчыне, дзе згарэла псіхіятрычная бальніца, інспектары Вілейскага дзяржпажнагляду райаддзела па надзвычайных сітуацыях абследавалі ўстановы, дзе знаходзіцца шмат людзей. Па выніках праверкі 13 кіраўнікоў, 4 службовыя асобы прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці, забаронена карыстанне 43 печамі, 153 участкамі электраправодкі, 7 памяшканнямі, 6 агрэгатамі.

**Ірына РАБУШКА.**

### Няма «камунізму»

МЯДЗЕЛ. Калгасы ў раёне сталі сельскагаспадарчымі вытворчымі кааператывамі. Адпаведна змянілі і назвы. Замест "Шляхоў да камунізму", імёнаў герояў савецкай эпохі большасць стала насіць назвы цэнтраў сваіх сядзіб. А найбольш папулярнае слова — "край". Ёсць у раёне і "Сінявокі край", і "Міжазёрны ... ", і "Свірскі..."

**Аддзел інфармацыі.**

### Новая станцыя

МАЛАДЗЕЧНА. У грузавым аўтапарку №2 адкрылася дыягнастычная станцыя для грузавых машын і аўтобусаў. Абсталявана яна новай нямецкай камп'ютэрнай тэхнікай, якую перадало Міністэрства транспарту і камунікацый Рэспублікі Беларусь і дае магчымасць праводзіць тэхагляды грузавых машын і аўтобусаў на месцы. Раней з гэтай патрэбай вадзіцелі ездзілі ў Валожын альбо Мінск.

**Ірына РАБУШКА.**

### На «зімовы» час

З гэтых выхадных мы пачынаем жыць па "зімовым часе". Каб ісці ў нагу зноў жа з часам, не забудзьцеся ў ноч на нядзелю, 26 кастрычніка, у 3 гадзіны ночы, стрэлкі гадзінніка перавесці на адну гадзіну назад.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

# Жывыя дрэвы не пацярпелі

**ВІЛЕЙКА. На базе Вілейскага лясгаса 16-17 кастрычніка адбыліся адборачныя спаборніцтвы лесарубаў, пераможцы якога адправяцца на чэмпіянат свету-2004 у Італію.**

У лясгасе месца правядзення ўдакладнілі так: "Паміж 83 і 84 кіламетрам трасы Мінск-Мядзел. Ды вы з дарогі ўбачыце". У надзейнасці маіх вачэй былі вялікія сумненні, таму вырашыла напрасіцца ў спадарожніцы да прадстаўнікоў ААТ "Маладзечналес". Інжынер **Аляксандр Сасункевіч** на дзіва хутка здагадаўся, дзеля чаго яму тэлефануюць з рэдакцыі газеты, і адразу згадзіўся. Паехалі.

На дарозе стаяў указальнік "Месца збору ўдзельнікаў". Там лесарубы рэгістраваліся, цягнулі жэрабя, наклейвалі на каскі і пілы свае нумары. Побач з аўтобусам суддзяў – стол з бутэрбродамі і гарбатай, каб кожны мог падсілкавацца перад спаборніцтвамі. Жанчыны з судзейскай каманды настойліва запрашалі да стала прадстаўнікоў прэсы і тэлебачання.

Калона машын з удзельнікамі рушыла на месца спаборніцтваў. Па дарозе Аляксандр Сасункевіч расказаў, што пераможцы будуць вызначацца ў дзвюх узроставых групах – юніёры (да 21 года) і дарослыя – па выніках пяці відаў: валка лесу, абрэзванне сукоў, мантаж ланцуга, дакладная і камбінаваная распілоўка. Толькі было незразумела, як суддзі зробяць для ўсіх удзельнікаў аднолькавыя ўмовы: дрэвы ў лесе растуць розныя, з рознай колькасцю галін.

На месцы высветлілася, што жывыя дрэвы ніхто не чапае, выкарыстоўваюцца цыліндраваныя бярвёны. Для распілоўкі – дыяметрам 35 см. У гладзенькія аднолькавыя цыліндры дыяметрам 12,5 см устаўлены такія ж гладкія калкі-галінкі – гэта "дрэвы" для абрэзвання сукоў. Такім чынам, усе лесарубы ў роўных умовах. І апранутыя ўсе аднолькава: у сінюю форму з ярка-аранжавымі (радзей лімонна-салатавымі) устаўкамі і такія ж яркія боты. Кажуць, што на першы для беларусаў чэмпіянат свету ў 1994 годзе адзін з нашых удзельнікаў прыехаў у камуфляжы і кірзавых ботах. Усе журналісты за ім бегалі – такая экзотыка.



Лесаруб Аляксей Палячок пілуе спецыяльна падрыхтаванае бервяно. Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

Старт далі на пяці пляцоўках адначасова. Ва ўсіх відах важныя паказчыкі – хуткасць і дакладнасць. Калі ўдзельнік абразаў сукі больш чым 30 секунд, ужо налічваецца штраф. Увогуле штрафаў шмат: за пянькі ад абрэзаных сучкоў, за пашкоджанне ствала. Пры камбінаванай распілоўцы, калі лесаруб спачатку да паловы драўлянага цыліндра вядзе пілу зверху ўніз, а пасля пілуе знізу ўверх, злучаючы разрэзы, можа атрымацца выступ-прыступка. Чым ён большы, тым большы штраф. Гэта асноўныя парушэнні, а ёсць яшчэ тонкасці, зразумелыя толькі лесарубам.

На такіх спаборніцтвах, дзе ўсё вырашае дакладнасць, магчымы выпадковы поспех. Каб пазбегнуць выпадковасці, на наступны дзень удзельнікі выконвалі тыя ж практыкаванні. Пераможца вызначаўся па выніках двух дзён. Ім стаў чэмпіён Беларусі **Васіль Міранюк** з Крупскага лясгаса. Лесарубы нашага рэгіёну ўвайшлі ў пятнаццатку лепшых канкурсантаў, якія будуць змагацца за права ехаць у Італію на чэмпіянат свету. Канчатковы склад беларускай каманды будзе вядомы ў маі, калі пройдуць усе адборачныя туры.

**Святлана ЦІШКО.**

### А што пад накрыўкай?



Накрыўкі, якімі закручваюцца слоікі з дзіцячым харчаваннем, утрымліваюць канцэрагены.

3-я старонка

### Сам-насам з агнём



На асфальтавым заводзе быў пажар. Пажарнага **Юрыя Дзядкова**, што тушыў яго, накрыла вогненная лавіна.

4-я старонка

### Добра там, дзе нас няма



Адзін наш зямляк, каб палепшыць свой дабрабыт, адправіўся на заробкі ў Расію і... мякка кажучы, прагарэў.

7-я старонка

■ КОНКУРСЫ

# Песні ад сэрца ішлі

**ЖОДЗІШКІ. На базе дзіцячага рэабілітацыйна-аздараўленчага цэнтра (ДРАЦ) "Лясная паляна" ў мястэчку Жодзішкі Смаргонскага раёна адбыўся II агляд-конкурс мастацкай самадзейнаці калектываў, падначаленых Камітэту па праблемах вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Тэма конкурсу – "На крылах творчасці – у краіну здароўя".**

З 9 каманд-удзельніц дзве былі з нашага рэгіёну – "Лясная паляна" прадстаўляла Смаргонскі раён і "Надзея"— Вілейскі.

Першае месца ў конкурсе заняла каманда ДРАЦ "Ждановічы". Каманда "Лясная паляна", якая летась перамагла на першым аглядзе-конкурсе, заняла другое месца. Дыплом трэцяй ступені атрымалі юныя артысты з рэабілітацыйна-аздараўленчага цэнтра "Світанак". Астатнія месцы названыя не былі.

З дзесяці намінацый тры дыпломы атрымала каманда "Лясной паляны" са Смаргоні – за найбольш поўнае раскрыццё тэмы, за лепшы танцавальны нумар, а танцавальны калектыў заваяваў прыз сімпатый гледачоў. Каманда "Надзеі" з Вілейкі перамагла ў намінацыі "Лепшае вядзенне праграмы".



На II аглядзе-конкурсе мастацкай самадзейнасці "На крылах творчасці – у краіну здароўя" ўзначальваў журы народны артыст Беларусі Якаў Навуменка, які падарыў удзельнікам і гасцям сваю песню. Фота Віталя ПАЎЛОЎСКАГА.

Узначальваў журы народны артыст Беларусі **Якаў Навуменка**, які ўдзел у мерапрыемствах, звязаных з перaадоленнем наступстваў Чарнобыльскай катастрофы, лічыць за свой доўг. Па яго словах, на конкурсе было вельмі складана вызначыць пераможцу. Пры даволі размытых крытэрыях суддзі за галоўнае палічылі паўнату раскрыцця тэмы конкурсу – здаровага ладу жыцця. Шмат якія нумары былі вельмі добрыя, але не адпавядалі гэтай ідэі.

Цеплыня і шчырасць агляду-конкурсу спадабаліся кіраўніку дзяржаўнага ансамбля "Свята" Анатолю Кашталопаву, які таксама ўваходзіў у склад журы. Па яго словах, пры ацэнцы выступленняў каманд суддзі шукалі кампрамісы і стараліся падтрымаць самых старанных і таленавітых. Пры гэтым разам улічваліся акцёрскія дадзеныя, касцюмы, узровень тэатралізаванасці выступленняў.

Пасля правядзення конкурснай часткі артысты-суддзі выступілі з невялікім канцэртам.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

■ ЗДАРЭННЕ

## Укралі «памяць»

МАЛАДЗЕЧНА. З будынка Лебедзеўскага сельсавета Маладзечанскага раёна ўкралі 2 мемарыльныя дошкі з сілуміну. Адна ў свой час была ўсталявана ў знак памяці пярвічнай арганізацыі РСДРП(б), якая дзейнічала ў Лебедзеве ў 1905-1907 гадах. Другой была засведчана пашана вяскоўцаў, мясцовай улады да камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, прадстаўнікі якой актыўнічалі на Маладзечаншчыне напрыканцы 1920 гадоў. Наўрад ці невядомыя рабаўнікі разважалі пра гістарычную памяць. Хутчэй іх цікавіла тое, з чаго зроблены памятныя дошкі: 1 кілаграм сілуміну на рынку каляровага металу каштуе да 2-х амерыканскіх долараў.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

■ КУЛЬТУРА

## Без «Аншлага»

**МАЛАДЗЕЧНА. Канцэрт Рэгіны Дубавіцкай і Міхаіла Лукінскага адменены.**

У расійскіх артыстаў быў запланаваны тур па гарадах Беларусі. Але нават абласныя цэнтры не сабралі залаў. Паводле слоў намесніка дырэктара Палаца культуры па інфармацыйнай і канцэртнай дзейнасці **Юрыя Карпіцкага**, у Маладзечне прададзена больш білетаў, чым у Віцебску, Гомелі і Мінску. Паколькі канцэрты ў абласных гарадах адменены, маладзечанцам было прапанавана здаць білеты ў касу.

21 лістапада адбудзецца творчы вечар кампазітара **Валерыя Іванова**. На ім будуць выступаць **Валерый Дайнэка**, ансамбль "Сябры", **Руслан Алехна**, **Іна Афанасьева**, сімфанічны аркестр і ансамбль цымбалістаў музвучылішча імя Агінскага. Чакаем відовішчаў.

**Святлана ЦІШКО.**

■ ПАМЯЦЬ

# Вядомае і невядомае імя

**Васіль Рагуля – яшчэ адно імя з гісторыі Беларусі, невядомае шырокаму колу людзей. А чалавек гэты пакінуў значны след у развіцці нашай краіны і грамадства. Яго жыццёвы шлях звязаны не толькі з Навагрудчынай, месцам нараджэння, але таксама з Маладзечаншчынай і Смаргоншчынай.**

Нарадзіўся Васіль Рагуля 16 ліпеня 1879 года ў вёсцы Ачукевічы Любчанскай воласці Навагрудскага павета, цяпер Навагрудскі раён. Па заканчэнні пачатковай школы паступіў у Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю, якую скончыў у 1898 годзе. У 1903 годзе паступіў у Віленскі настаўніцкі інстытут, які закончыў у 1906 годзе. У гэтым самым годзе быў арыштаваны за распаўсюджванне "Выборгского воззвания", але з-за адсутнасці доказаў справа была ліквідаваная, а Васіль Рагуля атрымаў пасаду настаўніка Вышэйшага пачатковага вучылішча ў Смаргоні. У 1908 годзе пераведзены на такую самую пасаду ў 3-е Мінскае вышэйшае пачатковае вучылішча. Праца настаўніка не перашкаджала займацца грамадскай работай. Падчас летніх вакацый ён арганізаваў у родным мястэчку бясплатную падрыхтоўку хлопцаў для паступлення ў гарадскія вучылішчы і ў настаўніцкую семінарыю. У 1914 годзе Васіль Рагуля быў мабілізаваны ў армію, дзе, як вайсковы ўрадавец, праслужыў да чэрвеня 1918 года, калі быў звольнены бальшавікамі. Потым зноў прыйшлі бальшавікі, і Васіля Рагулю, як прыналежнага да "комсостава", мабілізавалі і загналі ў Смаленск.

Увосень 1922 года Васіль Рагуля быў абраны беларускім паслом польскага сейма, а пасля, у 1928 годзе, — сенатарам, але хутка па абвінавачванні ў антыдзяржаўнай дзейнасці пазбаўлены дэпутацкага імунітэту і зняволены на 2 гады ў турму. Пасля вызвалення зноў вяртаецца ў родную вёску, працуе на гаспадарцы. У гэты час ён быў старшынёй рэвізійнай рады касы Стэфчыка.

З верасня 1939 годза, з прыходам савецкай улады, Васіль Рагуля пачаў настаўнічаць у мясцовай дзесяцігодцы. 20 чэрвеня 1941 года быў арыштаваны органамі НКУС. "... Мяне разам з іншымі беларусамі павезлі на ўсход. 2 дні пазней пачалася вайна з немцамі, і мне ўдалося за Менскам уцячы ды вярнуцца пешшу дамоў". Пасля вяртання беларускі актыў выбраў яго Старшынёй беларускага валаснога камітэта. У перыяд акупацыі Беларусі навагрудскі Gebistkommissar назначыў Васіля Рагулю, без яго згоды, бургамістрам Дзятлаўскага раёна, дзе ён прабыў да таго часу, пакуль нямецкі фронт пачаў каціцца на захад. "З ліпеня 1944 года давялося ўцякаць на захад, дзе і туляюся да сённяшняга дня".

16 чэрвеня 1955 года пасля доўгай і цяжкай хваробы Васіль Рагуля памёр у Нью-Ёрку. Ён быў не проста "адным з лідэраў беларускага нацыянальнага руху ў Польшчы", а гэта быў "лідэр з волі народа", якога не стае беларусам і сёння.

**Сяргей МАКАРЭВІЧ.**

■ ЭКСКУРСІІ

# Паломніцтва ў лаўру

**Паломніцтва ў Пачаеўскую лаўру дапамагло здзейсніць праваслаўным вернікам з Маладзечна, Вілейкі і групе мінчан турыстычнае бюро нашага горада.**

Гэта адна з нешматлікіх дзяржаўных установ, якая свята захоўвае традыцыі яе заснавальнікаў і рупліўцаў на ніве гістарычнай геаграфіі, краязнаўства. Нялёгка выжываць установе, якая працуе пад эгідай прафсаюзаў: камерцыйныя фірмы наступаюць на пяты. Але мізэрны калектыў, якім кіруе вопытны арганізатар **Людміла Бруяка**, не здае сваіх пазіцый.

У апошняе дзесяцігоддзе асаблівую папулярнасць набылі паездкі ў святыя месцы. Гэта перш за ўсё ў Жыровіцкі манастыр, на пакланенне цудатворнай іконе Маці Божай, у старажытны горад Полацк да святой княжніцы Ефрасінні. У апошнія гады на Усходзе Беларусі з'явілася яшчэ адно святое месца, куды людзі імкнуцца трапіць не проста дзеля цікавасці, – гэта святыя мошчы Іаана Кармянскага.

А даўняя мара маладзечанскіх вернікаў наведаць Пачаеўскую лаўру, якая знаходзіцца на Захадзе Украіны – паміж Цярнопалем і Львовам, – здзейснілася толькі два тыдні таму. І гэта дзякуючы актыўнаму экскурсаводу з Вілейкі Марыі Легуш, якая арганізавала не толькі сваіх землякоў, але і мінчан.

Уражанні аб паездцы ў двух словах не перадасі. Гэта трэба бачыць на свае вочы, адчуць душою. Здзіўляла ўсё, пачынаючы ад арганізацыі паломніцтва, дзе сабраліся людзі з адзіным жаданнем прытуліцца душой да першароднай чысціні святога месца славянскага народа , з якім некалькі стагоддзяў таму жылі ў адзінай дзяржаве – Вялікім княстве Літоўскім.

Пачаеўская лаўра бярэ пачатак якраз з гадоў манголa-татарскага нашэсця. Цудатворная ікона Пачаеўская, мошчы святых Іова і Амфілофія - ўсё гэта прыцягвае паломнікаў, якія вераць у цудатворнасць святынь. А той, хто прыехаў з мэтай больш экскурсійнай, як дзве студэнткі з Мінска, Юля і Іна , не змог застацца абыякавым і да прыгажосці сабора і храмаў, якімі нельга не захапляцца.

**Ларыса СЫСУН.**

■ ПЫТАЙЦЕСЯ – АДКАЗВАЕМ

## Ці можа быць мёд радыяцыйным?



**Ніна Ігнатовіч, Вілейка.**

Адказвае доктар-радыёлаг раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Віктар Белік**:

– На радыяцыю мёд людзі правяраюць мала. У год даводзіцца даследаваць не больш за 5-6 проб. Пераважна прыносяць яго грамадзяне, якія прадаюць гэты прадукт на рынку. Перавышэнне радыяцыі ні разу не зафіксавалі. Толькі гэта не значыць, што мёд чысты. Калі б проб было больш, то і вынікі б былі іншыя.

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

■ ІМЁНЫ

## На ніве навукі

Сярод іншых нашых землякоў-навукоўцаў – і кандыдат гістарычных навук **Уладзімір Майсак**. Нарадзіўся ён у Маладзечне 9 ліпеня 1954 года. Першыя сур'ёзныя крокі да будучай прафесіі зрабіў у Мінскім суворaўскім вучылішчы. Затым была вучоба ў Омскім вышэйшым агульнавайсковым камандным вучылішчы імя Фрунзе. З 1977 па 1998 гады служыў на афіцэрскай пасадзе ва Узброеных Сілах СССР і Расіі. У 1987 годзе закончыў гістарычнае аддзяленне ваенна-педагагічнага факультэта Ваенна-палітычнай акадэміі імя Леніна. Затым выкладаў на кафедры грамадскіх навук Чэлябінскага вышэйшага авіяцыйнага вучылішча штурманаў.

У 1996 годзе Уладзімір Мікалаевіч закончыў вучобу ў аспірантуры Чэлябінскага дзяржаўнага універсітэта. Абараніў дысертацыю на тэму "Падрыхтоўка авіяцыйных кадраў на Урале і Паволжы ў 1936-1941 гадах".

У 1998 годзе колішні маладзечанец узначаліў кафедру філасофіі Чэлябінскага юрыдычнага інстытута Міністэрства ўнутраных спраў Расіі. Палкоўнік міліцыі Уладзімір Майсак з'яўляецца членам-карэспандэнтам Расійскай акадэміі ваенна-гістарычных навук.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# Канцэраген пад накрыўкай

**Шкляныя слоікі з дзіцячым харчаваннем хутка застануцца ў мінулым. Сакрэт у накрыўках, якімі закручваюцца слоікі. А дакладней, у іх пракладках. Навукоўцы выявілі, што яны ўтрымліваюць канцэрагены, - пішуць Izvestia.ru. Эксперты Еўрасаюза настойліва рэкамендуюць харчавікам змяніць спосаб упакоўкі дзіцячага харчавання.**

Канцэраген семікарбазід знайшлі шмат у якіх прадуктах, закансерваваных у шкляных слоіках. Знаходка аказалася нечаканай і спачатку незразумелай. З'явілася меркаванне, што шкоднае рэчыва вылучаецца з пластыкавых пракладак у накрыўках.

Даследаванні расставілі ўсе кропкі над і. Канцэраген выяўлены у мностве прадуктаў, закрытых жалезнымі накрыўкамі і коркамі ў слоіках і бутэльках, – у дзіцячым харчаванні, фруктовых соках, джэмах і іншых кансервах, мёдзе, кетчупах, маянэзе, саленнях, марынадах і соусах. Не выклікае сумнення і паходжанне семікарбазіду – ён утвараецца ў пластыкавай пракладцы, калі слоік стэрылізуюць пры высокай тэмпературы.

Атрымаўшы гэтыя звесткі, спецыялісты Еўракамісіі па харчовай бяспецы адразу ж выступілі з рашэннем змяніць спосаб упакоўкі дзіцячага харчавання, каб не дапусціць утварэння семікарбазіду. Сама заява даволі цікавая. З аднаго боку, чыноўнікі ўсяляк стараюцца заспакоіць людзей і не дапусціць панікі. Яны сцвярджаюць, што доза семіркарбазіду вельмі невялікая і рызыка развіцця раку вельмі малая, а магчыма, яе ўвогуле няма, таму што даказана канцэрагеннае ўздзеянне семікарбазіду толькі на жывёле.

Насцярожваюць некаторыя факты, — гаворыць расійскі эксперт кандыдат медыцынскіх навук **Аляксандр Мельнікаў**, — якія спадарожнічаюць гэтай заяве. Перш за ўсё беспрэцэдэнтная хуткасць прынялця рашэння: зазвычай ў спакойнай і ціхай Еўропе яго "тры гады чакаюць". Непакоіць і тэкст заявы, у якой вытворцаў харчавання для малечы ўсяляк падштурхоўваць змяніць спосаб упакоўкі. "Мы мяркуем, – указваецца ў дакуменце, – што было б разумней зменшыць утрыманне семікарбазіду ў дзіцячым харчаванні як мага хутчэй".

Бацькам пакуль не рэкамендуюць адмаўляцца ад дзіцячага харчавання ў слоічках з жалезнымі накрыўкамі, знімаць з продажу іх пакуль не будуць. Спатрэбіцца найменш некалькі месяцаў, каб прамысловасць паспела перабудавацца. Тым больш, што замяніць такое харчаванне няма чым. Але некаторыя спецыялісты выказваюцца больш акрэслена. "Канечне, мы з разуменнем паставімся да рашэння некаторых мацярок пераключыцца на іншыя віды дзіцячага харчавання – кансервы ў бляшанках, сухія або замарожаныя прадукты, а таксама на стравы, прыгатаваныя імі самастойна", – кажа сэр **Джон Крэбс**, старшыня Агенцтва па харчовых стандартах Вялікабрытаніі.

Спецыялісты адзначаюць, што ад канцэрагену ў першую чаргу могуць пацярпець дзеці: у сілу шэрагу прычын немаўляты ад чатырох месяцаў да году атрымліваюць семікарбазіду з харчаваннем шмат больш, чым іхнія бацькі. Слоічкі для іх малыя, а пракладкі вялікія, таму канцэнтрацыя канцэрагену ў дзіцячым харчаванні шмат вышэй, чым у харчаванні для дарослых. Плюс такое харчаванне становіцца для дзіцяці асноўным на працягу першага года жыцця, калі яно пераходзіць з матчынага малака на звычайныя прадукты. І, нарэшце, вага дзіцяці непараўнальная з масай дарослага, і канцэнтрацыя семікарбазіду на кілаграм яго вагі намнога большая.

Падрыхтаваў Іван КАСЯК.



Больш за 20 год у нашым ужытку бляшаныя накрыўкі з пластыкавай пракладкай. Хутчэй за ўсё іхні век злічаны з-за канцэрагену, які нядаўна выяўлены ў пластыку.

Фота Васіля КАСЯКА.

**Курсы валют НБ РБ**

| | 16.10 руб. | 23.10 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2119,00 | 2123,00 |
| Еўра | 2482,73 | 2482,32 |
| Злоты | 546,98 | 538,41 |
| Літ | 719,16 | 718,87 |
| Расійскі рубель | 70,34 | 70,95 |
| **«Вулічныя» курсы ў Маладзечне** | | |
| Долар | 2107/2126 | 2107/2126 |

Маладзечна

**Цэны на рынку**

| Прадукты | Цана (руб.) 15.10 | 22.10 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 12630 | 13200 |
| Сасіскі, 1 кг | 4130 | 4570 |
| Селядзец, 1 кг | 2750 | 2800 |
| Рыс, 0,9 кг | 800 | 800 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1300 | 1300 |
| Цукар, 1 кг | 1310 | 1370 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1190 | 1250 |
| Алей, 1 л | 2000 | 2000 |
| Маянэз, 200 г | 490 | 490 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2200 | 2400 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 900 | 800 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 850 | 850 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 700 | 680 |
| Капуста, 1 кг | 200 | 160 |
| Морква, 1 кг | 500 | 250 |
| Лімоны, 1 кг | 2300 | 2300 |
| Апельсіны, 1 кг | 1950 | 1900 |
| Памідоры, 1 кг | 1190 | 1500 |
| Кавуны, 1 кг | 390 | 400 |
| Яблыкі, 1 кг | 1100 | 900 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Малако, 1,5 л | 600 | 600 |
| Смятана, 1 л | 2200 | 2200 |
| Масла, 1 кг | 5000 | 5000 |
| Тварог, 1 кг | 1800 | 1700 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1700 | 1500 |
| Бульба, 1 вядро | 2000 | 2000 |
| Яблыкі, 1 кг | 1000 | 600 |
| Журавіны, 5-літр. вядро | 11000 | 12000 |

■ НАШЫЯ ГРОШЫ

# Сцеражыцеся «рэкламных акцый»

**МЯДЗЕЛ. Бадай, няма таго чалавека, якому не хацелася б выйграць пэўную суму грошай альбо нейкі прыз. Для гэтага людзі і набываюць латарэйныя білеты, удзельнічаюць у розных акцыях. Але бывае і так, што выйгрыш "аб'яўляецца" сам па сабе.**

Дзесьці ў абед на вуліцы развярнулася белая іншамарка і прыпаркавалася ля суседняга дома. А неўзабаве на парозе з'явіліся дзве дзяўчыны і папрасілі дазволу зайсці ў дом.

— Хутка ў Мядзеле наша фірма адкрые свой магазін,— пачала адна з іх. – У ім будуць прадавацца бытавыя прыборы. І зараз для таго, каб як мага больш людзей ведала пра нашу прадукцыю, мы праводзім рэкламную акцыю. У Мядзельскім раёне для гэтай мэты былі выбраны пяць чалавек (і вы — адзін з іх!), якім наша фірма дарыве вось такія прыборы.

Пад гэтыя словы адна з незнаёмак стала даставаць з поліэтыленавага пакета і ставіць на стол прыгожыя скрыначкі, працягваючы скарагаворкай:

— Кухонны камбайн, электрачайнік, масажор, набор кухонных нажоў... Усё гэта цяпер ваша – бясплатна! Бярыце, карыстайцеся! У вас жа ёсць гаспадыня? Вось і ўзрадуйце яе. Усе прыборы справна працуюць – можам праверыць. Вам усяго толькі трэба расказаць сваім знаёмым пра нашу акцыю.

Я слухаў і чакаў, калі ж незнаёмкі скажуць пра самае галоўнае. Нарэшце не вытрымаў, запытаўся, колькі мне трэба заплаціць за гэты "сюрпрыз".

— Мы ж вам сказалі, што гэта – падарунак! Праўда, увесь набор каштуе 640 тысяч рублёў. Але вам, паколькі мы прыехалі з Брэста, патрэбна аплаціць толькі транспартныя расходы – 140 тысяч рублёў, а 500 тысяч – гэта падарунак ад фірмы.

— А калі ў мяне няма такіх грошай.

— У вас няма такой невялікай сумы – дык пазычце ў суседзяў. А разам з тым паведаміце ім, як вам пашанцавала...

— Ды не, дзякую! Пра вашу рэкламную акцыю я і так напішу ў газеце.

Тут мне прыйшла ў галаву ідэя сфатаграфаваць "супрацоўніц" фірмы, але іх і след прастыў...

У апошнія гады прадаўцы, каб збыць свой тавар, нярэдка возяць яго па вёсках. І ў гэтым няма нічога дрэннага. Хутчэй, наадварот. Вяскоўцам не трэба губляць час, калаціцца ў рэйсавым аўтобусе, каб купіць нешта патрэбнае. Але можа так стацца, што да вас завітаюць госці, якія захочуць сплавіць не зусім якасную ці патрэбную рэч, ды яшчэ за вялікія грошы.

Напрыклад, як у вышэйназванай гісторыі, калі аферысткі пад выглядам рэкламнай акцыі спрабавалі прадаць цэлы набор тавараў. Разлік тут робіцца на тое, што чалавек спакусіцца на слова "падарунак" і без ваганняў выкладзе са свёй кішэні быццам бы нязначную суму. На самой жа справе ніякім выйгрышам тут і не пахла. Рынкавая цана ўсяго набору тых рэчаў, на маю думку, была не болей 100-120 тысяч рублёў — калі ўлічваць дадатковыя транспартныя расходы і рызыку быць выкрытым.

Так што, будзьце пільнымі і беражыце свае грошы!

Мікола ЛІПСКІ.

 



■ ПРАФЕСІЯ

# Сам-насам з агнём

**ВІЛЕЙКА. На асфальтавым заводзе гарэла трансфарматарнае масла. Пажарнага Юрыя Дзядкова, які тушыў яго пенай, накрыла вогненная лавіна. Сябры па працы ў думках ужо паспелі развітацца з калегам, калі ўбачылі, што ён выпаўзае з агню.**

Як удалося вырвацца з таго пекла, не памятае сам. Магчыма, вельмі хацелася жыць. Пасля 3 месяцы ляжаў у бальніцы, перанёс некалькі аперацый, доўга лячыўся дома.

Прафесія небяспечная, але Юрый пераканаты, што кожная работа можа быць небяспечнай. Таму шукаць іншую не збіраецца. Яму падабаецца працаваць у аддзеле па надзвычайных сітуацыях: хутка прымаць рашэнні пры экстрэмальных здарэннях, дапамагаць людзям. Добра памятае свой першы выезд – пажар у вёсцы Бараўцы. 5 студзеня гарэла хата. Яе жыхары паспелі выбегчы, калі ўзарваліся 2 газавыя балоны. Юрый не ведаў, што яго чакае баявое хрышчэнне. Як толькі затушылі хату і небяспека адступіла – калегі нечакана аблілі новага пажарнага вадой. "Быў моцны мароз, – успамінае ён, – адзенне стала замярзаць, холадна. Амаль дзесяць гадоў прайшло з таго дня, а гэта запомнілася".

Прафесія пажарнага падабаецца не толькі самому Юрыю Дзядкову, але і яго дзецям, жонцы, сваякам. Знаёмыя, калі пачуюць пра якое здарэнне ў Вілейцы, адразу тэлефануюць яму, цікавяцца зыходам.

За 10 гадоў досведу стала больш. Юрый ведае, што дарослых, якія задыхнуліся ў дыме і страцілі прытомнасць, звычайна можна знайсці ля выхаду з памяшкання. Дзеці хаваюцца пад ложкамі, а вось п'яныя ляжаць, дзе давядзецца. Дарэчы, надзвычайнікі не толькі тушаць пажары, але і вызваляюць людзей з машын, якія пакарабаціла ў выніку аварыі, дапамагаюць трапіць дадому гаспадарам кватэр, што забыліся ці згубілі ключы.


Юрый Дзядкоў працуе пажарным амаль 10 гадоў. За гэты час даводзілася не толькі тушыць пажары, але і вызваляць людзей з пакарабачаных у аварыі машын. Гэта робяць вось такой пілой. Фота Ірыны РАБУШКІ.

Юрый Дзядкоў па нашай просьбе растлумачыў, чаму работнікі аддзела надзвычайных сітуацый не любяць слова пажарнік, патрабуюць, каб іх называлі пажарнымі. Лічыцца, што пажарны – гэтай той, хто тушыў агонь, а пажарнік – гэта пагарэлец, той, хто пацярпеў ад агню. Такое размежаванне значэнняў прынятае сярод надзвычайнікаў, хоць тлумачальны слоўнік падае гэтыя словы як сінонімы.

**Святлана ЦІШКО.**

■ ЗНАЁМЦЕСЯ – КІЯСКЁР

# Побач са школай

**ВІЛЕЙКА. Марына Борыс стала кіяскёрам пасля скарачэння штатаў на заводзе "Зеніт". Яе шапік – на плошчы Свабоды. Да новых абавязкаў, складання справаздач прывыкала цяжка. Лічыць, што для работнікаў гандлю пераход на працу ў газетны кіёск адбываецца лягчэй.**

Яе 15-гадоваму сыну Сяргею маміна работа падабаецца. Ён на перапынках прыбягае са школы, што месціцца зусім блізка, купіць жвачку, спытак ці пагартаць газеты. Суседства са школай зручнае яшчэ тым, што і вучні, і настаўнікі, рыхтуючыся да палітінфармацый, купляюць газеты ў Марыны Борыс.


Марына Борыс працуе кіяскёрам 5 з палавінай гадоў. Яе шапік на плошчы Свабоды суседнічае з гімназіяй. Фота Святланы ЦІШКО.

Цяпер у шапіках ёсць розны тавар. Але самы выгадны – газеты, хоць апошнім часам іх сталі менш купляць. Найбольшым попытам у віляйчан карыстаецца "газета з праграмай". Ёсць пакупнікі, якія спынілі свой выбар на канкрэтным выданні. Яны абавязкова прыйдуць па сваю прэсу, не сёння, дык заўтра. На шапік прыходзіць адзін экзэмпляр "Праўды" для аднаго канкрэтнага мужчыны. Некаторыя просяць пакінуць любімую газету да канца рабочага дня і забіраюць яе, ідучы дадому.

Марыне Анатольеўне даводзіцца гартаць ці не ўсе беларускія выданні, каб ведаць адказ на пытанні пакупнікоў "Што сёння пішуць?" або "Што гэта за новенькая газетка? Пра што там?". Таму яна ведае ўсе навіны.

**Святлана ЦІШКО.**

■ МЕДЫЦЫНА

# Пра здароўе...

**Да 1 лістапада Міністэрства аховы здароўя Беларусі павінна падрыхтаваць указ прэзідэнта аб канцэпцыі якасці і бяспекі харчавання і харчовых прадуктаў для жыцця і здароўя чалавека.**

Канцэпцыя вызначыць асноўныя кірункі дзейнасці дзяржавы ў гэтай галіне, як на рэспубліканскім, гэтак і на рэгіянальным узроўнях. У прыватнасці, у дакуменце будуць устаноўлены нормы і ўмовы вытворчасці, захоўвання і транспарціроўкі прадуктаў харчавання, вызначана найбольш адэкватная структура харчавання для кожнага рэгіёну краіны і інш.

Сёння менавіта дрэнная якасць, гэта значыць няправільная структура харчавання, з'яўляецца прычынай высокага ўзроўню шэрагу захворванняў у краіне. У прыватнасці, у рацыёне беларусаў утрымліваецца занадта шмат тлушчаў жывёльнага паходжання, цукру і вугляводаў. Пры гэтым насельніцтва спажывае недастатковую колькасць вітамінаў, мікра- і макраэлементаў, у першую чаргу, ёду, селену і фоліевай кіслаты.

**Вольга ЛАПІКАВА, БелаПАН.**

**БАРЫС КІТ**
**Запіс Васіля БЫКАВА**

# Цярновы шлях

**"Рэгіянальная газета" пачынае друкаваць успаміны аднаго з самых вядомых беларусаў XX стагоддзя Барыса Кіта, запісаныя Васілём Быкавым улетку 2001 года ў Франкфурце-на-Майне. Гэтыя ўспаміны Барыс Кіт даслаў на просьбу нашага пазаштатнага карэспандэнта Алеся Ралаўца спецыяльна для публікацыі ў нашым выданні. Рэдакцыя адабрала тыя фрагменты мемуараў, якія пераважна тычацца нашага рэгіёну. Згадаем, што Кіт падчас вайны настаўнічаў у Маладзечне – стварыў насуперак волі нямецкіх уладаў гандлёвую школу – установу, якая ў сапраўднасці мела статус куды вышэйшы за звычайную прафесійную школу, давала моладзі сапраўды глыбокія веды па многіх фундаментальных дысцыплінах. Кіт быў вязнем Вялейскай турмы. З Лебедзева, слыннага мястэчка пад Маладзечнам, з сям"і Корсакаў паходзіць ягоная жонка. Успаміны даюцца ў правапісе арыгіналу. З поўным тэкстам успамінаў вы можаце пазнаёміцца на сайце газеты па адрасе regionnews.promedia.by.**

Безумоўна, найцікавейшая частка майго жыцьця — гэта жыцьцё на Беларусі, куды я прыехаў недзе каля 20-га году. У Пецярбурзе жыць далей было немагчыма з прычыны спачатку Лютаўскай рэвалюцыі, а пасьля Кастрычніцкага перавароту. Цяпер шмат пішацца і гаворыцца, што была вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя, але ў сапраўднасьці не было ніякай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Гэта быў маленькі пераварот, некалькі гадзін — Аўрора пад Зімні палац стрэліла, і адтуль усе ўцяклі.

Хутка пачаўся страшэнны голад, пракарміцца было немагчыма, таму мая сям'я, мой бацька вырашылі паехаць дахаты, на вёску ў Беларусь. Спачатку мяне адвезьлі да крэўных, да маёй цёткі, у вёску Сапатніца, што праз пятнаццаць кілёметраў ад Карэлічаў. Ну там я дачакаўся, пакуль прыедзе сям'я, бацька і маці. У вёсцы таксама быў голад, страшэнны, безумоўна, выкліканы вайной. Якраз між Карэлічаў і вёскай праходзіла лінія Гіндэнбурга, тут адбываліся бai, і ўсё было зьнішчана. Мы спадзяваліся, што будзе трошкі лепш, чым у Пецярбурзе, дзе людзі паміралі ад голаду. Нажаль, вельмі лепш не было. Прышлося на першых часох есьці крапіву і капаць гнілую бульбу на панскіх палёх. Карэлічы належалі да польскага графа Жалтоўскага, які меў найбольш зямлі. Во мы ішлі на поле і капалі бульбу.

Пазьней мы пераехалі з вёскі Сапатніцы ад маёй цёткі ў Карэлічы, у маленькі дом. Вялікага дома цяжка было пабудаваць, але нейкую хатку мой бацька збудаваў. Нажаль, была бедная такая хатка, дзеравяннай падлогі мы ніколі ня мелі, жылі на зямлі, без падлогі. Бацька меў 1 гектар зямлі, і яму увесь час прыходзілася хадзіць ў панскі маёнтак, каб зарабіць. Я спачатку вучыўся ў пачаткавай школе. А пачаткавая школа ў Карэлічах —гэта была польская школа. Уся польская палітыка была скіравана на тое, каб асімілязаць беларусаў. Я адчуў гэта ад самага пачатку, калі маленькім хлопцам хадзіў у тую польскую школу. І так здарылася, што адзін наш вучыцель прозьвішчам Рамановіч быў вялікі патрыёт, беларус і страшэнна не любіў усё, што рабілі палякі ў Заходняй Беларусі, на нашых землях. Пасьля польска–савецкай вайны замест таго, каб даць зямлю беларусам, далі яе асаднікам, былым польскім вайскоўцам, а нам нічога. Прышлося гараваць так і далей. Зямлю графа Жалтоўскага таксама раздалі асаднікам. Пан Жалтоўскі быў паляк, паходзіў з беларускай шляхты. Нажаль, уся наша шляхта здрадзіла Беларусі, перайшла на польскі бок. Рабіла польскую справу і не прызнавала нічога важнага беларускага. Не прызнавала, што Беларусь мае сваю культуру, сваю мову і павінна мець сваю незалежнасьць.

Камуністы мяне вабілі да сябе увесь час. Але што мяне ад іх ратавала? У нас быў дырэктар **Цеханоўскі**, беларускі нацыяналіст, дык ён узгадоўваў нас беларускімі патрыётамі, заснаваў беларускі гурток і усё нас агітаваў працаваць толькі на беларускую нацыянальную справу. І тым нас выратаваў. Хаця я таксама памагаў тым хлопцам, што прыходзілі да мяне па матэматыку, перапісваў ім усялякія паперы. Але ўвесь час, ва ўсім жыцьці я ставіў матэматыку вышэй за палітыку.

Цяпер пра гімназіі. У нас было восем беларускіх гімназіяў ў Польшчы. Найбольш дзейныя гімназіі: Радашкаўская, Клецкая, Наваградская і Віленская. У 34 годзе наша Наваградская была ўжо зачынененая. Яны зачыняліся, бо польскія ўлады хацелі асімілявать Заходнюю Беларусь, якую яны называлі «Крэсы Усходнія». Але беларусы рабілі сваё, асабліва інтэлігенцыя, якая групавалася ў беларускія гімназіі. Чатыры гімназіі — Радашкаўская, Наваградская, Клецкая, Віленская — усе яны па чарзе былі зачыненыя. Шмат можна гаварыць пра гэтыя гімназіі, успомніць, што ўсе мы змагаліся за іх існаваньне, рабілі ўсё, што магчыма, каб толькі ўтрымаць іх. Але тое было вельмі цяжка, бо польскія ўлады змагаліся проціў нас. З другога боку дужа перашкаджалі камуністычныя ўплывы з Усходняй Беларусі, бо давалі ўладам падставу зачыняць гімназіі. Так камуністычная партыя Заходняй Беларусі была вельмі закаранена ў гэтых гімназіях. Радашкавічы проста называлі месцам перапраўкі беларусаў на Усход.

**Працяг будзе.**

 

# Жыццё, аддадзенае медыцыне

**"Усё значнае ў жыцці творыцца на аснове індывідуальнасці."**
**Васіль Быкаў.**

**Гэта публікацыя – даніна павагі цудоўнаму чалавеку, старэйшаму на Маладзечаншчыне доктару-хірургу Вользе Сямёнаўне Філон, якая сёлета адзначыла свой 90-гадовы юбілей.**

Што гэта за людзі – дактары і наогул медыцынскія работнікі? Ці магчыма, каб адзін чалавек мог незлічоную колькасць разоў перажываць, суперажываць кожнаму чалавеку ў яго хваробе, горы, няшчасці, быць пры нараджэнні чалавека і пры яго смерці. І з гэтымі пачуццямі пражыць усё сваё жыццё. Ці можа вытрымаць чалавек такую колькасць узрушэнняў? У чым шчасце доктара?

Адказаць на гэтыя пытанні вельмі складана. Працсей скажаць словамі Гіпакрата: "У медыцыне ёсць усё, што можна знайсці ў мудрасці". І Вольга Сямёнаўна Філон адносіцца менавіта да такіх людзей: таленавітых, мудрых, пасля сустрэчы з якімі застаецца ў душы след дабрыні.

Нарадзілася яна 15 чэрвеня 1913 года на Магілёўшчыне ў шматдзетнай сялянскай сям'і. Бацька быў самым пісьменным чалавекам у пасёлку, умеў лячыць людзей лекавымі травамі. У 1918 годзе маці, а потым і бацька памерлі ад іспанкі. Засталіся сіротамі пяцёра дзяцей: чатыры дзяўчынкі і хлопчык. Вольга была самай маленькай. Яе ўдачарыла бяздзетная сям'я дзядзькі Сямёна Хаміцкага па лініі маці, якая жыла ў Барысаве. Дзядзька працаваў на чыгунцы багажным касірам. Жонка яго была для Вольгі на працягу ўсяго жыцця як родная маці.

У 1930 годзе Вольга закончыла 8 класаў чыгуначнай школы ў Барысаве. Дзесяцігодак тады яшчэ не было. 2 гады працавала рахункаводам на чыгуначнай станцыі, а па вечарах вучылася і закончыла 9-месячныя курсы па падрыхтоўцы да паступлення ў Гомельскі лесатэхнічны інстытут, у які і паступіла ў 1932 годзе. Становішча студэнтаў у сувязі з галадам у краіне было вельмі цяжкім. На картачку выдавалася ў дзень толькі 300 г хлеба, стыпендыя складала 18 рублёў. Вясной, на першым курсе, перахварэла запаленнем лёгкіх. Яна пакідае вучобу, а восенню 1933 года паступае ў Мінскі медыцынскі інстытут. Неўзабаве выходзіць замуж за ваеннаслужачага – курсанта Паўла Філона, ураджэнца в.Гарадок Маладзечанскага раёна. Ім выдзяляюць 2 пакоі ў камуналцы.

У 1938 годзе Вольга заканчвае медыцынскі інстытут, а са жніўня гэтага ж года пачынае працаваць доктарам-педыятрам 1-й дзіцячай кансультацыі г.Мінска. Як жонцы ваеннаслужачага ёй даводзіцца часта мяняць месца працы.

У пачатку Вялікай Айчыннай вайны эвакуіравалася з дзецьмі ў г.Мурам Горкаўскай вобласці, дзе працавала педыятрам у дзіцячай паліклініцы. Потым з 1942 і да 1945 года – у эвакашпіталі №2823 у Арзамасе хірургам, а затым начальнікам хірургічнага аддзялення. Пасля ліквідацыі шпіталя ў 1945 годзе пераязджае на месца працы мужа ў Гродна. Потым зноў даводзілася каляісць: Баранавічы, зноў Гродна, Брэст, дзе працавала хірургам у ваенных шпіталях.

З кастрычніка 1955 года і па кастрычнік 1991 года Вольга Сямёнаўна працавала ў Маладзечанскай гарадской бальніцы. Тут праяўляецца яе незвычайны талент: у шырокім аб'ёме раскрываецца набыты за гады вайны вопыт хірурга ў лячэнні наступстваў і ўскладненняў пасля баявых траўмаў.

А ў хуткім часе Вольга Сямёнаўна ўзначальвае работу па арганізацыі ўпершыню ў горадзе спецыялізаванай службы па лячэнні хворых з траўмамі і аказанні артапедычнай дапамогі. Яна паглыбляе свае веды, тройчы праходзіць курсы ўдасканалення ў сталічных клініках, асвойвае найноўшыя метады лячэння.

У 1963 годзе выбіраецца дэлегатам на I Усесаюзны з'езд траўматолагаў і артапедаў, які праходзіў у Маскве. У 1965 годзе зацвярджаецца галоўным спецыялістам траўматалогіі і артапедыі горада і раёна. У гэтай галіне Вользе Сямёнаўне прысвойваецца першая кваліфікацыйная катэгорыя.

Як вопытнаму хірургу давялося ёй быць 20 гадоў старшынёй урачэбна-прызыўной камісіі ў ваенкамаце.

53 гады свайго жыцця аддала Вольга Сямёнаўна служэнню медыцыне. Не пералічыць, колькі трывожных і бяссонных начных дзяжурстваў ёй, маці траіх дзяцей, прыйшлося правесці ў хірургічным стацыянары, колькім людзям яна выратавала жыццё, колькіх пазбавіла ад пакут, паставіла на ногі. Ёй верылі пацыенты, верылі як таленавітаму спецыялісту, мудраму і вельмі добраму чалавеку, бо лячыла яна яшчэ сэрцам і душой, усяляла надзею на выздараўленне, не лічылася з цяжкасцямі.

Аўтар гэтага артыкула ў 50-60-х гадах працаваў хірургам разам з Вольгай Сямёнаўнай. Адзначаю, як і многія калегі, што доктар Вольга Філон – гэта чалавек-феномен, у якой цудоўным чынам спалучаюцца такія якасці, як прафесійная годнасць, талент, доўг, дабрыня, сціпласць, суперажыванне, тактоўнасць, прыроджаная інтэлігентнасць і прыгажосць.

З асаблівай павагай, цеплынёй і сардэчнасцю выказвалі і выказваюць словы шчырай удзячнасці Вользе Сямёнаўне за вучобу, падтрымку, бездакорную практычную дапамогу вядомыя хірургі, а таксама старшыя медыцынскія сёстры, якія працавалі разам з ёй. А за шматгадовую працу ў ваенны і мірны час Вольга Сямёнаўна Філон узнагароджана медалямі "За перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне 1941-1945 гг.", "За доблесную працу", "За працоўную адзнаку", многімі юбілейнымі медалямі, Ганаровымі граматамі аховы здароўя, ваенкамата, гарвыканкама. Яна атрымлівала шмат удзячных пісьмаў ад былых хворых і іх родных. І ў той жа час сваю ўрачэбную дзейнасць ацэньвае вельмі сціпла. У адным з навагодніх інтэрв'ю карэспандэнту газеты на пытанне: "Што вам прынёс мінулы год?" Вольга Сямёнаўна адказала: "Радуюся, што ў нашым горадзе ахова здароўя развіваецца плённа. Мне цяжка сказаць, колькі я асабіста за доўгія гады сваёй работы вярнула людзей да нармальнай працоўнай дзейнасці. Думаю, што пацыенты на мяне не ў крыўдзе. Я задаволена, што выбрала гуманную прафесію доктара".

Медыцынскія работнікі Маладзечаншчыны, а таксама жыхары горада і раёна адрасуюць Вользе Сямёнаўне Філон у сувязі з юбілеем глыбокую ўдзячнасць за шматгадовую працу, за вялікі ўклад у развіццё медыцыны ў нашым краі, за дабрыню да людзей, за вялікае і шчодрае сэрца хірурга і жадаюць добрага здароўя, бадзёрасці, дабра і шчасця.



**Старэйшы на Маладзечаншчыне доктар-хірург Вольга Сямёнаўна Філон адзначыла ў гэтым годзе свой 90-гадовы юбілей.** Фота з архіва музея.

**Франц СВІТО, кандыдат медыцынскіх навук, загадчык музея медыцыны Маладзечаншчыны.**

■ **ЖЫЦЦЁВАЕ**

# Пісьмы ад сына

**Вечар надыходзіў спакваля. Нібы шукаў месца, дзе яму лепш уладкавацца нанач. Дзесьці за лесам патанула сонца, над берагамі задыміліся і папаўзлі туманы. Яны раслі ў залежнасці ад таго, як гусцеў змрок, падплывалі на гароды, паўзлі ў дворы. Напрацаваная за дзень вёска засынала, паклаўшы пад галаву свае клопаты, трывогі, турботы пражытага дня.**

Агата ў хату не спяшалася. Сядзела, прытуліўшыся спіной да сцяны хаты, перабірала ў думках усё сваё нялёгкае жыццё, у якім гора было куды больш, чым радасцей, і ціха плакала. Не ад стомы і адзіноты, якія даўно ўжо сталі спадарожнікамі яе жыцця, ад радасці. Справілася, выкапала разам з людзьмі бульбу, убрала моркву, буракі, заарала гарод. Значыць, ёсць яшчэ сіла, а разам з ёй і надзея, што перазімуе, дачакаецца наступнай вясны ў сваёй хаце, а не на сацыяльным ложку ў бальніцы, куды ёй не раз прапаноўвалі даць накіраванне.

... Клалася спаць, не вячэраючы. Яна, мо, ужо тыдзень, як не паліла ў печы, нічога не варыла, перабіваючыся аб сухім. А некалі ж была лепшай у вёсцы гаспадыняй. Надарыцца ў каго вяселле, хрэсьбіны, клікалі за павараху яе. Смачнымі выходзілі ў кабеты і мясныя, і мучныя стравы. А якія сыры варыла! Ці ж тым, што прадавалі ў магазіне, можна было з імі параўнацца?

Муж яе загінуў трагічна. Пайшоў напрадвесні вудзіць рыбу і праваліўся пад лёд. Засталіся адна з двума дзецьмі, Агата справілася з горам. Сабраўшы сілы і волю ў кулак, трымала ў парадку дом, гарод, не звяла гаспадарку, ды яшчэ й на калгаснай рабоце першай была. За ёй, работай, і сыночка меншага недагледзела. Прастудзіўся, захварэў на запаленне лёгкіх і праз тыдзень памёр.

На магілках Агата не плакала. Стаяла, нібы нежывая, глядзела ў адну кропку, маўчала. "Паплач, — прасілі вясковыя жанкі, дай волю слязам, лягчэй стане",— яна нікога і нічога не чула, а назаўтра злягла сама. Адняліся ногі. Якім толькі дактарам яе не паказвалі, якіх толькі шаптух не прыводзілі, ніхто і нішто не маглі дапамагчы.

Даўно была прададзена карова, перасталі рохкаць у хляве свінні, і толькі рабы певень, які кожную раніцу кукарэкаў ля хлява, напамінаў аб тым, што і ў гэтым ціхім, запушчаным двары жывуць людзі.

Найцяжэй, здаецца, было Міхаську. Ён перажываў адразу дзве бяды: смерць брацікa і хваробу маці, якая хадзіла па хаце на кастылях, нічога не ела і ні з кім не гаварыла. Аднаго вечара ён не вытрымаў, кінуўся ёй у ногі, абхапіў іх абедзвюма рукамі, заплакаў. Спалі яны ў тую ноч у адным ложку. Соладка дзіця, якое з тымі слязамі выплакала ўвесь свой боль, і трывожна маці, якой трэба было пачынаць змагацца з хваробай, вучыцца жыць наноў.

У яе атрымалася. Праз нейкі час нешматлікая цяпер сям'я зноў купіла жыўнасць, пасадзіла бульбу, лішкі якой кожны год здавала ў нарыхтоўчую кантору, а грошы клала на ашчадную кніжку. Агата вельмі хацела, каб пасля дзесяцігодкі Міша паступіў у інстытут, стаў інжынерам альбо настаўнікам.

Школу хлопец скончыў без троек. І ў інстытут паступіў, толькі прафесію сабе выбраў, як лічыла жанчына, дзіўную, стаў геолагам. Калясіў па свеце, доўга не жаніўся, а пасля, нарэшце, асеў. "Прыязджай, маці, паглядзіш, як жыву," — запрашаў сын у пісьмах. Агата толькі ўздыхала, куды ёй ехаць, калі далей сваёй вёскі гадоў мо, трыццаць, як нідзе не была. Яна купляла канверт, ішла да суседскай дзяўчынкі, якая заўсёды пісала ёй пісьмы да сына, і прасіла сказаць Міхасю, што сама чакае яго ў госці.

А той усё не ехаў і не ехаў. То работа не пускала, то сямейныя справы, то будоўля: сын пачаў узводзіць свой дом, у якім меркаваўся абсталяваць пакой і для яе, маці. Пасля ён збіраў на дачу, машыну, каб прыехаць у вёску і адвезці яе, як пані, у свой далёкі горад. Па праўдзе кажучы, Агата нікуды са сваёй хаты ехаць не збіралася, але кожны раз, атрымаўшы такі ліст, туліла яго да грудзей і радавалася. Помніць пра яе сын, шкадуе.

... Міхась прыехаў, толькі не на машыне, на самалёце. І не для таго, каб забраць маці ў свой новы дом: адправіць яе на могілкі. Не пражыла Агата зіму, не дачакалася веснавога сонейка. Памерла на ложку, у сне. Пад падушкай ляжалі пісьмы ад сына.

**Марына СЛІЖ.**

■ ГІСТАРЫЧНЫ АТЛАС РЭГІЁНУ

# Індустрыяльнае мястэчка Вішнева

**Ну, скажаце, "загнуў" аўтар: яшчэ індустрыяльнае Маладзечна, Вілейка ці Смаргонь – куды не ішло, а то нейкае Вішнева? Але не спяшайцеся з прысудам, бо на карысць такога сцвярджэння ёсць у поўным сэнсе "жалезныя" аргументы.**

Яшчэ 200 з лішкам гадоў таму назад у Вішневе быў адкрыты не нейкі там бровар, а сапраўдны металургічны завод, на якім была пабудавана першая на Беларусі доменная печ. Ні дзе-небудзь на горным Урале, дзе жалезную руду граблі лапатамі, а ў гэтай, раскінутай сярод пушчы і балот, беларускай вёсцы, што ў Валожынскім раёне.

Магчыма, нічога гэтага і не было б, каб не купіў у 1600 годзе Вішнева з наваколлем князь А.Храптовіч. Раней гэта паселішча, вядомае з XIV стагоддзя, уваходзіла ў склад Крэўскага княства, потым належала прадстаўнікам магнацкіх родаў у Вялікім княстве Літоўскім князям Сангушкам і Гальшанскім, пазней – Пацам, у апошніх і выкупілі Вішнева Храптовічы. Новыя гаспадары, відаць па ўсім, апроч здольнасцей да дзяржаўнай службы, былі надзеленыя і добрай прадпрымальніцкай стрункай. Так, уладар Вішнева Іаахім Храптовіч быў міністрам замежных спраў, потым канцлерам ВКЛ, калі ў яго вішнеўскім маёнтку ва ўсю моц разгарнулася ў прамысловым маштабе выплаўка металу з балотнай руды, запасаў якой хапіла на 80 гадоў працы адкрытага ў 1780 годзе металургічнага завода.



Добра ловяцца ракі ў мясцовай рачулцы.

Заснаваны на Заходняй Бярэзіне першапачаткова як мануфактура, металургічны завод у далейшым штодзённа выраблаў 600 пудоў (9,6 тоны) жалеза. На заводзе дзейнічалі ліцейня для плаўкі чыгуну, плюшчыльная (пракатная) машына, вадзяныя машыны і молаты. Выраблялі мірную прадукцыю: сашнікі, паласавое жалеза, адлюкі для сельскагаспадарчага інвентару, абсталяванне для млыноў, але, калі спатрэбілася, — маглі і зброю. На заводзе выраблялася зброя для паўстанцаў у 1794 годзе, у тым ліку для атрада пад камандаваннем М.К.Агінскага, таго самага кампазітара, які ў 1794 годзе з атрадам стралкоў і 200 коннімі егерамі двойчы спрабаваў тымі мясцінамі прабіцца ў Менскую губерню, каб падняць там паўстанне супраць расійскага царызму за незалежнасць роднага краю. У 1-й чвэрці XIX стагоддзя металургічны завод меў 2 доменныя печы, 5 плавільняў, 3 склады гатовай прадукцыі. Самае вялікае каменнае памяшканне — ліцейны цэх — мела даўжыню ў 92 сажні. Найбольшы аб'ём вытворчасці прыходзіўся на 1850-1860 гады, калі на заводзе працавала больш за 200 прыгонных рабочых, выраблялася звыш 20 тысяч пудоў (320 тон) металу ў год. Але ў 1860 годзе доменная вытворчасць была спынена ў сувязі з тым, што вычарпаліся мясцовыя радовішчы балотнай руды. Завод яшчэ дзесятак гадоў пратрымаўся "на плыву" на прывазным метале, але не змог вытрымаць канкурэнцыю з рускімі і польскімі металургічнымі прадпрыемствамі і ў 1870 годзе быў зачынены.

Але прамысловае аблічча Вішнева не абмяжоўвалася адным металургічным заводам. У мястэчку працавалі таксама заводы шкляных вырабаў, цагельна-ганчарны, спіртзавод, сукнавальня, вадзяны млын. На месцы былога ліцейнага цэха быў адкрыты масласырзавод. Кожны тыдзень праводзіліся таргі і 2 вялікія кірмашы ў год. Храптовічы гандлявалі з Англіяй і Германіяй, прадавалі мяса, сыры, масла, воўну і іншыя тавары. У канцы XIX – пачатку XX стагоддзя ў Вішневе былі пабудаваны запалкавая фабрыка, майстэрня па вырабу безалкагольных напояў, працавалі алейня, воўначасальня, хлебапякарня, кузні, слясарня, бляхарня, шавецкія і кравецкія майстэрні. У 1920 годзе ў Вішневе працавала каля 10 тысяч лесарубаў, возчыкаў і іншых рабочых.

Адпаведна эканамічнаму патэнцыялу развівалася і, як кажуць цяпер, сацыяльная інфраструктура, хаця знешнія ўмовы бывалі часам зусім неспрыяльныя. У 1812 годзе мястэчка было спалена войскамі Напалеона, бо воляй лёсу там адбыўся бой з рускай арміяй пад камандаваннем Барклая дэ Толі, якая адступала на ўсход. Такая ж напасць спасцігла і ў першую сусветную вайну, калі праз Вішнева ў 1915-1918 гадах праходзіла лінія нямецкай абароны: жыхары былі выселены, а вёска – зноў спалена.

З 1775 года ў Вішневе працавала павятовая школа, у якой займалася ў розныя гады ад 48 да 86 вучняў; у 1864 годзе там была адкрыта царкоўнапрыходская школа, працавалі народнае вучылішча і яўрэйскае вучылішча (ешыбот). У 1920 годзе ў Вішневе дзейнічалі касцёл, царква, сінагога, польская 7-гадовая і яўрэйская школы, пошта, бальніца, ветлячэбніца, аптэка і 2 аптэчныя склады, лазня. Перад апошняй вайной у мястэчку было 300 двароў і пражывала 2,5 тысячы чалавек. Захопнікі ў чарговы раз нанеслі амаль смяротную рану, загубіўшы падчас акупацыі 2060 жыхароў і спалілі 257 дамоў. З той пары і да сённяшняга часу Вішнева не змагло аднавіць сваё былое насельніцтва, дзе яшчэ не так даўно (у 1996 годзе) было ўсяго 537 жыхароў і 211 двароў.

Можна было б пафантазіраваць, якім магло стаць Вішнева пры спрыяльных ва ўсіх адносінах умовах. Але гісторыя, як вядома, не мае ўмоўнага ладу. На суцяшэнне застаецца толькі згадаць так званы фатальны "Закон Мэрфі": калі якая-небудзь непрыемнасць можа здарыцца – яна здарыцца...

З тых далёкіх часоў, аб якіх ішла размова, застаўся ў гістарычнай частцы вёскі касцёл Марыі – помнік архітэктуры ранняга барока, пабудаваны ў 1637-1641 гадах і дабудаваны 2-вежавым галоўным фасадам у 1906 годзе. Касцёл расписаны мясцовым жывапісцам родам з суседняга Багданава Фердынандам Рушчыцам – прафесарам Школы прыгожых мастацтваў у Варшаве, потым Кракаўскай акадэміі мастацтваў, аддзялення прыгожых мастацтваў Віленскага універсітэта. Вішнеўскі касцёл ужо ў наш час быў шырока вядомы далёка за межамі парафіі сваім ксяндзом Чарняўскім, які стаў ладзіць службу ў ім на беларускай мове і сам пераклаў на яе Біблію. Гэта неардынарная асоба, за свае падзвіжніцтва на ніве каталіцкай веры ён быў ушанаваны нават аўдыенцыяй у папы рымскага Іаана Паўла II у Ватыкане.

Маўклівай сведкай мінуўшчыны з'яўляецца таксама і праваслаўная Казьмадзям'янаўская царква – помнік архітэктуры 1865 года. Раней у артыкуле пра Лоск я пісаў ужо, што ў Вішневе скончыў 13 студзеня 1593 года свой жыццёвы шлях няўрымслівы шукальнік ісціны, адзін з самых адукаваных людзей свайго часу, гуманіст і друкар Сымон Будны. Мясцовыя краязнаўцы скажуць вам, што ў Вішневе жыла ў пачатку XX стагоддзя і пахавана вядомая беларуская паэтэса Канстанцыя Буйло. Там у 1891 годзе ў сям'і лесніка нарадзілася і жонка Янкі Купалы У.Ф.Луцэвіч, родная пляменніца якой, мая універсітэцкая аднакурсніца Жанна Каспаровіч (па мужу Дапкюнас), ужо колькі год нязменна ўзначальвае музей народнага паэта ў Мінску і яго філіял у Вязынцы. 80 гадоў назад у Вішневе нарадзіўся Нобелеўскі лаўрэат, міністр замежных спраў Ізраіля Шымон Перас, які неаднаразова ў 90-я гады наведваў сваю малую радзіму, дзе загінулі многія яго родзічы.

Не адзін дзесятак гадоў ездзіў праз Вішнева па дарозе на радзіму жонкі ў Юрацішкі і, шчыра прызнаюся, ніякіх асаблівых эмоцый яно ў мяне не выклікала: звычайная вялікая вёска з традыцыйным для сваіх памераў наборам – цэнтр сельсавета і калгаса, школа, некалькі магазінаў, установы аховы здароўя і бытавых паслуг і г.д. Цяпер жа, калі больш грунтоўна дакапаўся (хоць і не з нуля) да нечакана цікавай мінуўшчыны мястэчка, гусім іншымі вачыма і з павагай гляджу на яго. Як усё ж важна ведаць гісторыю свайго краю! Мой рацыю вядомы рымскі консул і прамоўца Цыцэрон, калі больш за 2 тысячы гадоў назад сказаў: Не ведаць, што было да таго, як ты нарадзіўся, значыць назаўсёды застацца неразвітым дзіцем".

**Міхаіл ФІЛІСТОВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

# Сымон Будны ў Вішневе і Лоску

Выдатны беларускі філосаф, багаслоў, пісьменнік і педагог нарадзіўся каля 1530-1539 года. Ён належыць да ліку першародных асобаў беларускай гісторыі. Дакладнае месца нараджэння С. Буднага невядомае, а вось дату, калі завяршыўся шлях чалавека універсальных ведаў і унікальнага філосафа можна сказаць дакладна: 13 студзеня 1593 года. Памёр С. Будны ў вёсцы Вішнева Валожынскага раёна, там жа і пахаваны.

Залатою парою ў творчасці С.Буднага сталі таксама гэтыя мясціны. З 1573 па 1583 год ён жыў і тварыў у вёсцы Лоск, дзе знайшоў выключна спрыяльныя ўмовы для працы. Не губляючы часу, ён неадкладна прыступіў да выпраўлення сапсаванага перакладу Новага Запавету і ўжо літаральна праз год надрукаваў яго ў Лоску, напісаўшы "Эпіграму на герб Яна Кішкі" і грунтоўную "Прадмову да чытача".

Пасля з'яўлення Новага Запавету імя Буднага набыло папулярнасць у краінах Заходняй Еўропы – Англіі, Францыі, Германіі; з ім імкнуцца завесці знаёмства, пачуць яго погляды меркаванні па тых ці іншых праблемах.

У жніўні 1576 года Сымон Будны надрукаваў у Лоску на польскай мове свой найважнейшы тэалагічны трактат "Аб асноўных артыкулах хрысціянскай веры", які заставаўся ў цэнтры рэфармацыйнай палемікі. З яго высновамі дыскутавалі Станіслаў Астроўскі ў кнізе "Аб спрадвечнай боскасці Ісуса Хрыста" і Марцін Смігляцкі ў творы з гэткай жа назваю.

У 70-я гады XVI стагоддзя, калі на землях Вялікага княства Літоўскага і Польшчы пачаўся працэс выпрацоўкі дзяржаўна-палітычнай і этычнай дактрыны пратэстанцтва, між прадстаўнікамі розных яго накірункаў узніклі вострыя дыскусіі, найперш па пытаннях аб прызначэнні дзяржавы, сутнасці ўрада, абавязкаў урадаўцаў.

У студзені 1581 года Сымон Будны склікаў у Лоску пратэстанцкі сінод Вялікага княства і зноў вынес на яго абмеркаванне пытанне пра ўладу. Калі прыйшоў час галасавання, увесь сінод, за выключэннем двух чалавек, пайшоў следам за сваім духоўным лідэрам і выказаўся ў абарону ўрада. Наступны агульны антытрынітарны сінод Буднаму ўдалося склікаць у сакавіку 1582 года. Спрэчкі доўжыліся два дні. Ідэйныя ворагі лоскага міністра, імкнучыся ўхіліцца ад абмеркавання пытання пра ўрад, здолелі навязаць сіноду другасную на той момант дыскусію пра Сына Божага. "Яны, — пісаў пазней Будны, — гвалтам прымусілі нас да тае размовы, паставіўшы ўмову: калі мы не захочам весці размову аб сыне Божым, то яны адмовяцца гаварыць пра ўрад".

Працаўнікі Буднага скарысталі яго пратэсты супраць абмеркавання на сінодзе тэалагічных пытанняў дзеля сваіх карыслівых мэт; яны ўзвялі на лоскага міністра паклёп, нібыта ён абвяргае ва ўсіх сваіх казаннях боскасць Хрыста, а на сінодзе не хоча пра гэта гаварыць.На наступным сінодзе яго адлучылі ад Збору.

Тыя падзеі пазбавілі С.Буднага душэўнай раўнавагі. Каля 1583 года ён пакідае Лоск і, напэўна, накіроўваецца ў Іўе, дзе дзейнічала арыянская акадэмія. Асветнік, мусіць, зноўку паспрабаваў знайсці сябе на педагагічнай ніве. Ускосным доказам знаходжання Буднага ў Іўі з'яўляецца вядомы факт яго супрацоўніцтва з рэктарам Іўеўскай акадэміі Янам Ліцыніям Намыслоўскім, на падручнік якога ён напісаў у 1589 годзе панегірычныя вершы.

**Падрыхтавана па старонках кнігі "Памяць".**

